ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (92) лістапад 2018 год

CATHOLICNEWS.BY

# Зберажом святыню разам!

## Верніцы з Ушачаў робяць ружанцы, каб зарабіць грошы на рамонт храма


Стар. 8-9

### Прывітаем Мікалая – дарагога госця з рая!


Стар. 4


Стар. 14

### Сексуальная этыка: што можна, а чаго – не?

### МИД Польши подарил микроавтобус гомельской "Детской деревне"


Стар. 3

### У Германавічах Шаркаўшчынскага дэканату паляўнічы сезон пачалі з Імшы ў касцёле


Стар. 7

## Увага! Падпіска на першае паўгоддзе 2019 года!

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**



# Папа Францішак: “Не рабіць з касцёлаў гандлёвых цэнтраў!”

**“Касцёл павінен быць Божым домам, а не кірмашом ці салонам, прасякнутым духам гэтага свету”, – зазначыў Папа падчас ранішняй Эўхарыстыі, якую цэлебраваў 9 лістапада ў Ватыкане.**

Спасылаючыся на літургічнае чытанне з Евангелля св. Яна (Ян 2,13-22), Папа Францішак патлумачыў, чаму Езус выгнаў гандляроў са святыні. Збаўца клапаціўся любоўю і клопатам пра Божы дом, які зрабілі гандлёвым цэнтрам, дадаў ён.

Езус убачыў у ерусалімскай святыні “тых, хто гандляваў валамі, авечкамі і галубамі, мянялаў”. Паводле Папы, святыня была напоўненая сапраўднымі ідалапаклоннікамі, тымі, хто больш пакланяўся грашам, чым Богу.

Папа Францішак заклікаў паразважаць пра тое, што адбываецца сёння ў касцёлах: ці сапраўды яны з’яўляюцца месцамі малітвы і сустрэчы з Богам; ці садзейнічаюць святары гэтаму. Папа прызнаўся, што у адным касцёле бачыў прэйскурант на сакраманты. Гэта недапушчальна, паколькі ператварае храм у дом гандлю. Вернікі павінны мець магчымасць пакласці ахвяру ў скарбонку, але ніхто не павінен ведаць, колькі яны ахвяруюць, падкрэсліў Святы Айцец.

Пантыфік таксама звярнуў увагу на іншую праблему, калі падчас некаторых падзей касцёлы ператвараюцца ў “грамадскія салоны”, а ўсё, што там адбываецца, прасякнута духам марнасці. “Так, сапраўды, цэлебрацыя павінна быць прыгожай, але не ў духу гэтага свету, які заключаецца ў залежнасці ад бажка грошай. Гэта таксама ідалапаклонства”, – дадаў Папа.

Францішак заклікаў вернікаў клапаціцца пра святыню ўласнага сэрца і выганяць адтуль ідалаў, што дапаможа абараніцца ад сапсаванасці. “Крыніцай сапсаванасці з’яўляецца ідалапаклонства: продаж душы бажку грошай, бажку ўлады”, – завяршыў сваю гамілію Святы Айцец.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*





## Карабель-шпіталь імя Папы Францішка будзе дапамагаць жыхарам Амазоніі

**Карабель-шпіталь імя Папы Францішка будзе несці медыцынскую дапамогу жыхарам Амазоніі. Падчас плавання ён пераадолее каля тысячы кіламетраў шляху.**

Святы Айцец благаславіў праект, у якім удзельнічаюць урачы розных спецыялізацый. Яны плануюць аказаць дапамогу сотням тысяч бразільцаў, якія жывуць далёка ад лякарняў.

Падчас плавання медыцынскі карабель наведае 12 муніцыпалітэтаў, размешчаных уздоўж ракі, дзе пражывае каля 700 тыс. чалавек. Для многіх з іх гэта адзіная магчымасць сустрэцца з урачом, асабліва з вузкім спецыялістам. На борце судна ёсць, сярод іншага, лабараторыя, дзе можна зрабіць асноўныя аналізы, аптэка, аперацыйныя залы, а таксама дыягнастычная частка, абсталяваная рэнтгенаўскім, ультрагукавым і мамаграфічным апаратамі.

Папа Францішак падзякаваў усім, хто ўдзельнічае ў праекце, які, паводле яго ж слоў, прынясе шмат добрага людзям.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

## У Расіі адкрылі мемарыял памяці святароў – ахвяраў савецкага рэжыму

**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч 8 лістапада ўзяў удзел у святкаваннях юбілею заснаванай ім у 1993 годзе Каталіцкай духоўнай семінарыі “Марыя – Каралева апосталаў” у Санкт-Пецярбурзе.**

Арцыбіскуп Кандрусевіч узначаліў адкрыццё мемарыяла з прозвішчамі вядомых 425 каталіцкіх святароў, якія загінулі падчас атэістычнага рэжыму ў савецкіх лагерах, а таксама цэлебраваў святую Імшу ў касцёле святога Станіслава.

Разам з ім Эўхарыстыю канцэлебравалі Апостальскі нунцый у Расіі арцыбіскуп Чэлестына Мільёрэ і ўсе расійскія біскупы.

Арцыбіскуп Кандрусевіч у кароткай прамове падкрэсліў, што калі яшчэ не так даўно дзень 7 лістапада лічыўся “чырвоным днём календара”, то сёння ў Каталіцкім Касцёле ў Расіі – гэта дзень малітвы за ахвяры таталітарнага савецкага рэжыму і іх праслаўлення.

На думку арцыбіскупа Кандрусевіча, у працэс праслаўлення навамучанікаў арганічна ўпісваецца адкрыццё мемарыял у гонар святароў, якія аддалі сваё жыццё за веру.

*Krynica.info*




## Ватыканская газета ўзгадвае мучаніц з Навагрудка

**Хрысціян, якія ахвярна супрацьстаялі нацызму і былі забітыя за гэта, узгадвае ватыканская газета “L’Osservatore Romano”. У артыкуле гаворыцца і пра сясцёр назарэтанак з Навагрудка.**

Паводле аўтара, каталіцкага журналіста Анджэла Паолуцы, і праз 75 гадоў стаўленне гэтых асоб выклікае захапленне. Ён называе “сярод тысяч забітых у 1943 г. польскіх святароў, законнікаў і свецкіх” Зыгмунта Пісарскага, Юрыя Кашыру, Германа Караля Стэмпеня, Ахілеса Пухалу і сястру Марыю Сташэўскую. Многія з іх былі беатыфікаваныя і кананізаваныя Янам Паўлам ІІ.

Гаворыцца пра аўстрыйца Франца Егерштэтэра, абвешчанага благаслаўлёным у 2007 г., якога нацысты пакаралі смерцю за адмову ад вайсковай службы. Акрамя таго, ватыканская газета нагадвае пра Якаба Гапа: святар пратэставаў супраць далучэння Аўстрыі да Германіі, збег у Францыю, там быў арыштаваны гестапа і загінуў у Берліне.

Паолуцы згадвае таксама немца, кс. Бернарда Ліхтэнберга, пробашча катэдры ў Берліне, які выступіў супраць пераследу яўрэяў і нацысцкай праграмы па эўтаназіі. Журналіст піша і пра “Любэкскіх мучанікаў”, сярод іх лютэранскі пастар Карл Фрыдрых Штэлбрынк, пра членаў студэнцкай групы супраціву “Белая ружа”, у якую ўваходзіў праваслаўны святар Аляксандр Шморэль.

“L’Osservatore” згадвае і 11 законніц з Кангрэгацыі Святой Сям’і з Назарэта, расстраляных нацыстамі каля Навагрудка 1 жніўня 1943 г. Сёстры ахвяравалі сваё жыццё за 120 чалавек, арыштаваных і прысуджаных да расстрэлу. Усе гэтыя людзі пасля перажылі вайну. Назарэтанкі былі беатыфікаваны Янам Паўлам ІІ у 2000 г.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# МИД Польши подарил микроавтобус гомельской “Детской деревне”

**Комфортабельный микроавтобус Volkswagen Crafter, оснащенный подъемником для инвалидных колясок, появился в гомельской “Детской деревне” (дом-интернат для детей-инвалидов с особенностями психофизического развития), сообщает Katolik.life.**




Комплекс построила и оснастила всем необходимым Благотворительная католическая миссия “Каритас-Милосердие” на деньги иностранных благотворительных организаций и частных дарителей из Германии, Австрии, Италии и других европейских государств. В последующем на этой базе в сотрудничестве с областным комитетом по труду, занятости и социальной защите населения был создан интернат, финансирование которого государство взяло на себя.

Автомобиль был приобретен на средства программы Министерства иностранных дел Польши “Польская помощь”. Для участия в церемонии передачи микроавтобуса 13 ноября интернат посетили представители МИД Польши и посольства Польской Республики в Беларуси.

– Это большая радость для нас, – отметил директор Благотворительной католической миссии “Каритас-Милосердие” священник Юрий Воронко. – Благодаря Богу и тем людям, которые услышали просьбу о помощи, реализуется этот проект. Радует, что мы смогли воплотить его в жизнь совместными с государством усилиями, и наше сотрудничество продолжается.

Священник рассказал, что микроавтобус будет служить воспитанникам интерната, которые должны ездить на занятия в школу. Теперь это будет максимально комфортно и безопасно.

Также на автомобиле будут перевозить молодых инвалидов, которые раз в неделю приезжают в интернат на встречи. Первый секретарь посольства Польши в Беларуси Магдалена Сидорович выразила радость, что польская сторона может участвовать в проекте “Детской деревни” и поддерживать его:

– Мы желаем передавать свой опыт и оказывать финансовую поддержку тем, кто нуждается в помощи.

Председатель комитета по труду, занятости и социальной защите Гомельского облисполкома Петр Шутько заметил, что проект “Детской деревни” для Беларуси уникальный:

– Наиболее оптимально, когда человек проживает в условиях семейного типа. На базе этого учреждения созданы великолепные условия, здесь прекрасный коллектив, поэтому данная площадка заслуживает того, чтобы распространять свой опыт по всей стране. Радует, что проект реализуется совместными усилиями государства и партнеров, помощь которых неоценима. Важно, что мы не остановились на первом этапе, но реализуем вторую очередь проекта *(строительство Интегративного терапевтическо-образовательного центра. – Ред.)*.

Все стороны выразили надежду, что сотрудничество на благо больных детей будет продолжаться.

В течение последних пяти лет посольство Польши в Беларуси в рамках “малых грантов” реализовало более 30 проектов на сумму свыше 1 млн евро. Например, год назад в Центре коррекционно-развивающего обучения и реабилитации Новополоцка с помощью польской стороны открыли два игровых комплекса.

Гомельская “Детская деревня” рассчитана на проживание в ней 60 мальчиков и девочек в условиях, максимально приближенных к семейным. В такой среде, а также благодаря постоянным дидактическим и реабилитационным занятиям возможно максимально полное развитие личности. Четыре отдельные группы-семьи состоят из 15 человек. Звеном, которое соединяет такую группу-семью, является сестра-монахиня. С её помощью работники интерната заботятся о надлежащем климате воспитания и опекают детей. Попасть в дом-интернат имеет возможность каждый, кто в этом нуждается, вне зависимости от вероисповедания.

# У Гомелі пабудавалі каталіцкую капліцу і заклалі падмурак касцёла

**У Савецкім раёне горада з’явілася месца, дзе католікі могуць збірацца на Імшу.**

16 лістапада, ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Міласэрнасці – Маці Божай Вастрабрамскай, біскуп Казімір Велікаселец асвяціў капліцу ў Савецкім раёне Гомеля. Тут, на месцы будаўніцтва каталіцкага храма Ўнебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, нядаўна была ўзведзена часовая капліца, каб мясцовыя католікі змаглі збірацца тут на літургію. Цяпер ім не давядзецца дабірацца праз увесь горад да пакуль адзінага ў Гомелі касцёла на вуліцы Савецкай – біскуп Казімір будзе рэгулярна служыць святую Імшу ў капліцы.

Адначасова працягваюцца працы па ўзвядзенні новага каталіцкага храма – будаўнікі завяршаюць заліццё падмурка.

Нагадаем, касцёл з’явіцца на скрыжаванні вуліцы Аб’язной і праспекта Рэчыцкага, на ўездзе ў Гомель з боку Рэчыцы.

Фінансаванне працаў ажыццяўляецца выключна за кошт ахвяраванняў вернікаў і спонсарскай дапамогі.

Касцёл спраектаваны ў псеўдагатычным стылі, выцягнуты ўгару і мае 30-метровыя вежы, пакольку побач знаходзяцца шматпавярховыя дамы, якія б закрывалі сабой невысокі храм.

Цікава, што краевугольны камень новага касцёла ў Гомелі блаславіў Папа Рымскі Францішак.

*Katolik.life*







# Прывітаем Мікалая – дарагога госця з рая!

## Вершы сучасных украінскіх паэтаў

### Некалькі фактаў і легендаў пра Святога Мікалая, якія, магчыма, вы не ведалі...

**1.**
**Пасціўся з маленства**

Нарадзіўся каля 260 года ў горадзе Патара Лікійскай вобласці. Быў адзіным сынам пабожных Феафана і Ноны, якія далі зарок прысвяціць дзіця Богу. Маці пасля родаў вылечылася ад хваробаў. Немаўля падчас хрышчэння само прастаяла на нагах тры гадзіны. Існуе легенда, што Святы Мікалай пачаў пасціцца з самага маленства, прымаючы малако маці па серадах і пятніцах толькі адзін раз. Ён жыў на тэрыторыі сучаснай Турцыі.

**2.**
**Быў смуглай скуры**

Святы Мікалай быў дужым мужчынам, ростам прыкладна 1 м 68 см, з высокім ілбом, заўважнымі скуламі і падбародкам, носам, "падобным да арлінага", карымі вачыма і смуглай скурай *(Паводле дадзеных Манчэстэрскага ўніверсітэта, навукоўцы якога ў 2009 годзе па мошчах рэканструявалі знешнасць)*.

**3.**
**Быў манахам у Святой Зямлі**

У 305 годзе некалькі манахаў з Анатоліі прыбылі ў Святую Зямлю і ў мястэчку Бейт-Джалілі заснавалі невялікі манастыр. Некалькі манахаў жылі ў пячорах з відам на Віфлеем. Святы Мікалай прыбыў у Святую Зямлю як паломнік ў 312 годзе. Ён наведаў месцы, звязаныя з жыццём Збаўцы, і на працягу трох гадоў жыў у манастыры Бейт-Джалілі. У 317 годзе Мікалай вярнуўся на радзіму.

**4.**
**Таемна рабіў падарункі**

Яшчэ адна легенда распавядае пра тое, што аднойчы Мікалай даведаўся: яго сусед страціў усё, што меў, і не мог забяспечыць пасагам сваіх дачок. Каб дапамагчы дзяўчатам пазбегнуць ганьбы, ноччу Святы Мікалай падкінуў іх бацьку ў чаравік золата. Іншая легенда распавядае, што Мікалай падкідваў грошы праз комін, а манеты цудоўным чынам траплялі ў шкарпэткі, якія сушыліся каля вогнішча.

**5.**
**Сябра і апякун маракоў**

Здзяйсняючы паломніцтва ў Святую Зямлю, ён супакоіў ўсхваляванае мора. Праз яго малітву уваскрос карабельшчык-матрос, які зваліўся з мачты і разбіўся да смерці.

Яшчэ адна легенда распавядае нам, што ў горадзе, дзе Мікалай быў біскупам, панаваў голад. Аднак непадалёк, ля яго берагоў, стаяў карабель са збожжам. Матросы не хацелі дзяліцца ім з жыхарамі горада, але Святы Мікалай пераканаў іх і паабяцаў, што збожжа ў трумах менш не стане. Усё адбылося так, як абяцаў Мікалай.

Маракі ўшаноўваюць яго як свайго заступніка.

**6.**
**Аплявуха Арыю**

Святы Мікалай быў дбайным абаронцам праўдзівай веры. Гісторыя распавядае, што святы наведаў Нікейскі Сабор у 325 годзе. Мікалай слухаў там Арыя, які не паважліва выказаўся пра Боскую прыроду Езуса. Усе біскупы трымалі сябе ў руках, а Мікалай...даў яму аплявуху. Святы паўстаў перад судом імператара. Канстанцін загадаў біскупам вызначыць пакаранне для Мікалая. Яны пазбавілі святога біскупскага адзення і пасадзілі ў турму. Той жа ноччу Мікалай ўбачыў Езуса і Найсвяцейшую Панну Марыю. Збаўца ўручыў яму кнігу Евангелля, а Яго Маці зноў апранула святога ў біскупскае адзенне. Імператар вызваліў святога, а Сабор прызнаў вучэнне Арыя ерассю.

Даследчыкі кажуць, што Святога Мікалая, верагодна, усё ж не было на тым Саборы. Упэўненым можам быць у адным: святы заставаўся верным вучэнню Касцёла і вучыў гэтаму іншых.

**7.**
**Рэліквіі Святога**

У 1957 былі праведзены навуковыя даследаванні рэліквій Святога Мікалая. Удзел у іх прынялі папскі дэлегат кардынал Адэадата Ян П'яцца, кардынал Агаджан, шэсць мітрапалітаў і дзевятнаццаць біскупаў. Рэліквіі Святога Мікалая выдзяляюць пахучы алей – міра, якому прыпісваюць аздараўляльную моц. Склад яго не паддаецца вызначэнню з навуковага боку.

*Вікторыя Зарэчная*

### Ён ходзіць...

Ён ходзіць ад хаты да хаты,
Пытаецца ў мамы і таты:
"Разумнае ваша дзіцяці,
Дзяўчынка ці хлопчык у хаце?"

Ідзе у заснежанай світцы,
У торбе ён мае гасцінцы.
Хто маму і тату шануе,
Дарункі ён тым прапануе.

Хто ён? Ты хутчэй адгадай!
Канешне, святы Мікалай!

*С. Майданская*

### Зімовы вечар

Зімовы вечар лёг на плечы,
На вокнах – стрэлы і кругі.
Бялее поле ў цёмны вечар,
Гаі бялеюць і лугі.

Уноч заледзянела рэчка,
І вецер уздымаў сувой.
А дрэвы, як у храме свечкі,
Дрыжаць іскрынкаю жывой.

Крышталь блішчыць на ветках сада –
Душа здзіўляецца зіме.
А з неба, з самых райскіх шатаў,
Дарункі Мікалай нясе.

*І. Салюк*

* * *

Стагоддзяў шмат таму, а можа, зараз
Жыў Мікалай – заўсёды ён жывы.
Не забываў нікога – толькі радасць
Для ўсіх дарыў ад светлае душы.

Усім рабіў дабро і зараз робіць,
Удзячнасці ніколі не чакаў.
Зімовай ноччу ён па хатах ходзіць –
Таемна, каб ніхто і не пазнаў.

Хай так даўно ён жыў і так далёка,
Сустрэчы з ім чакаем мы заўжды.
Маліся, Мікалай, за дзетак Богу,
Наш любы сябра шчыры, дарагі!

*І. Цельняк*

### Ліст да неба

Шчыры ліст напісалі ў рай:
– Не забудзь нас, святы Мікалай!
І анёлам нябесным мы рады, –
Пішуць хлопчыкі вам і дзяўчаты.

У садок мы хадзілі старанна
І вучыліся добра, заўзята.
Шанавалі матулю і тату
І любілі сястрычку і брата.

Нашы сэрцы да Бога адкрыты
У малітвах да Панны Марыі.
Вось і госця чакаем мы з неба,
А чарцей нам усякіх не трэба!

Шчыры ліст напісалі ў рай:
– Мы чакаем, святы Мікалай, –
Лепшы сябар малых на ўсім свеце!
Знізу подпіс разборлівы: "Дзеці".

*Н. Маркевіч*

### Малітва да Мікалая

Святы Мікалай,
Святлом ахінай!
Цябе я чакаю
І шчыра жадаю:
Дзядуля з бабуляй
Былі каб здаровы,
Татуля з матуляй
Жылі ў любові.
Чароўную казку,
Гасцінцаў салодкіх
І Божую ласку
Усім адзінокім!

*Н. Гуменюк*

* * *

Наш любімы Мікалай!
Дзякуем. Не забывай!
І праз год да нас прыйдзі,
Шчасце дзецям прынясі!
Мы праводзім Мікалая –
Дарагога госця з рая.

*З. Філіпчук*

### Просьба да Мікалая



Мікалай святы, Мікалайчык!
Хай маленькі ўсміхаецца зайчык!
За мяне матуля хвалюецца,
А пра зайку ніхто не турбуецца.

Ён у садзік прыбег – хвост шэранькі,
Як у садзіку лёг снег беленькі.
Трэба зайку цёплыя чобаты,
Каб не змерзлі лапкі ад холаду.

З неба глянуў Мікалай-Мікалайчык:
"З падарункам будуць хлопчык і зайчык,
Ды шчаслівая тая маці,
Што ўзрасціла такое дзіцяці!"

*Л. Вазнюк*

*Пераклад з украінскай і рэдакцыя –*
***Зміцер Ермаловіч-Дашчынскі,***
*галоўны метадыст*
*Хрысціянскага сацыяльнага цэнтра (г. Мінск).*

*Святы Мікалай з дзецьмі ў Глыбокім*



# Чаму нельга кандыдату да бежмавання быць міністрантам падчас святой Імшы з удзяленнем сакраманту канфірмацыі?

*– Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, чаму нельга кандыдату да бежмавання быць міністрантам падчас святой Імшы з удзяленнем сакраманту бежмавання? А якія могуць быць перашкоды? Вялікі Дзякуй!*
*З павагай, Станіслаў*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, вышэйшая духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаны Станіслаў!

Дзякуй за пытанне пра ўдзяленне сакраманту канфірмацыі, якое хачу пашырыць, каб ахапіць таксама ролю сведкі ў гэтай цэлебрацыі. Пры нагодзе выказваю ўдзячнасць усім, хто адважваецца задаваць пытанні як сваім душпастырам, так і “Каталіцкаму Весніку”. Падобная актыўнасць – гэта сведчанне адказнасці за рэлігійныя веды ды дапамога ўсім, хто цікавіцца жыццём Касцёла.

## Сутнасць канфірмацыі

Канфірмацыя разам з хростам і Эўхарыстыяй належыць да сакрамантаў хрысціянскага ўтаямнічэння, якія з’яўляюцца падмуркам усяго хрысціянскага жыцця (пар. *Катэхізіс Каталіцкага Касцёла*, 1212). Праз сакрамант канфірмацыі ахрышчаныя “яшчэ цясней звязваюцца з Касцёлам, атрымліваюць асаблівую моц Духа Святога і такім чынам яшчэ больш абавязваюцца як праўдзівыя сведкі Хрыста пашыраць веру словам і справай, а таксама абараняць яе” (Пар. *Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл Lumen gentium*, 11). Сутнасць сакраманту канфірмацыі выражаецца таксама ў адказе кандыдатаў на пытанне біскупа пра ласкі, якіх яны чакаюць ад Бога: “Прагнем, каб Дух Святы, Якога мы атрымаем, умацаваў нас для мужнага вызнавання веры і для жыцця паводле яе правілаў”. Вернікі, пераважна маладыя, усвядоміўшы вялікі дар веры і моц Духа Святога, прагнуць яшчэ больш дасканала прыпадабняцца да Хрыста і ўмацоўвацца, каб даваць сведчанне пра Яго і будаваць Яго цела ў веры і любові. Канфірмацыя называецца таксама сакрамантам сталасці, што ў сваю чаргу выказвае гатоўнасць вернікаў жыць па-хрысціянску як Божыя дзеці, каторыя могуць казаць да Бога “Абба Ойча” (Рым 8, 15). Менавіта дзякуючы памнажэнню дароў Духа Святога кожны з нас можа ў лучнасці з усім Касцёлам быць сведкам Езуса Хрыста і абвяшчаць праўду пра Яго іншым людзям. Варта таксама памятаць пра незнішчальную пячаць – знак Пана, які канфірмаваны атрымлівае на ўсё жыццё.

## Адказнасць за хрысціянскае ўтаямнічэнне

Сакраманты – гэта крыніцы Божай ласкі, таму свядомае іх прыняцце дапамагае чалавеку яднацца з Богам і жыць у камуніі з Ім. Клопат пра хрысціянскае выхаванне дзяцей і моладзі, а ў выніку пра падрыхтоўку да сакраментальнага жыцця ляжыць на ўсёй супольнасці Касцёла, аднак у першую чаргу з’яўляецца заданнем бацькоў і хросных. Менавіта бацькі павінны пастухова ўводзіць сваіх дзяцей у таямніцу веры, карыстаючыся між іншым катэхетычнай дапамогай саваёй парафіяльнай супольнасці. Паколькі вера ёсць вялікім дарам і прывілеем, то варта гэты вялікі скарб перадаваць дзецям у сям’і ад самых маленькіх гадоў. Безумоўна, асаблівым чынам дапамагае ў гэтым удзел у сакрамантальным жыцці ў парафіі: спачатку пад апекай найбліжэйшых, а з цягам часу і самастойны.

У працэсе хрысціянскага ўтаямнічэння вялікую ролю адыгрывае таксама сведка канфірмацыі. Трэба, на жаль, сказаць, што яго роля часта абмяжоўваецца толькі суправаджэннем кандыдата падчас урачыстасці ўдзялення сакраманту хрысціянскай сталасці. Заданне сведкі падобнае да заданняў хросных бацькоў. Ён павінен дапамагаць кандыдату ў падрыхтоўцы да канфірмацыі, прадстаўляць яго біскупу для намашчэння хрызмам у часе літургіі, а пазней падтрымліваць у верным выкананні абяцанняў, дадзеных падчас хросту (пар. *Парадак канфірмацыі. Уводзіны, 5*). У сувязі са сказаным вышэй, трэба сцвердзіць, што найбольш адпаведнымі сведкамі канфірмацыі ёсць хросныя бацькі, калі яны сумленна выконваюць свае абавязкі. Беручы пад увагу той факт, што хросныя не заўсёды могуць прысутнічаць на літургіі канфірмацыі ды іншыя акалічнасці, кандыдаты самі выбіраюць сведку сярод родных, сваякоў або знаёмых. Такая традыцыя ёсць таксама і ў нашай краіне. Варта памятаць пры выбары сведкаў, што яны мусяць стаць пэўнага кшталту працягам хросных бацькоў тых, хто прымае сакрамант канфірмацыі. Складана адназначна адказаць, ці можна лічыць добрым выбар сведкі сярод равеснікаў, хоць, канешне, нельга пярэчыць такому праву. Найважнейшае, каб сведка быў прыкладам і ўзорам жыцця, якое згоднае з вызнаванай верай.



## Цэлебрацыя літургіі канфірмацыі

Ва ўзгаданых вышэй *Уводзінах да Парадку канфірмацыі* напісана, што неабходна паклапаціцца, каб абрады мелі святочны і ўрачысты характар з увагі на іх значэнне для мясцовага Касцёла. Такім чынам, як душпастыры так і вернікі павінны добра падрыхтавацца да свята, каторае варта перажыць з сем’ямі і сябрамі тых, хто атрымлівае канфірмацыю, а таксама з парафіянамі. Праз гэта прысутныя паказваюць сваю веру ў пладах, якія ўзрасціў у іх Дух Святы. Вядома, што добра падрыхтаваная літургія дапамагае яе ўдзельнікам больш глыбока ўключыцца ў праслаўленне Бога. Сакрамант канфірмацыі, які ахрышчаны прымае адзін раз у жыцці, патрабуе менавіта ўрачыстага характару і адпаведнага парадку.

Калі гэта магчыма, то кандыдат да канфірмацыі павінен знаходзіцца разам са сведкам на працягу ўсёй літургіі ў падрыхтаваным раней месцы, што ў сваю чаргу дапамагае захаваць павагу і засяроджанасць, а таксама пазбегнуць непатрэбнай мітусні. Паколькі канфірмацыя ўдзяляецца пераважна падчас святой Імшы, можна лічыць, што такі парадак варта захаваць на працягу ўсёй літургіі.

Тут трэба яшчэ звярнуць увагу на знак ускладання рукі сведкі на плячо канфірмаванага, што выражае з боку сведкі гатоўнасць дапамагаць і падтрымліваць сваё “духоўнае дзіця”, а з боку кандыдата – прыняцце гэтай дапамогі. Трэба разумець, што згаданы знак больш выразны, калі той, хто прымае сакрамант хрысціянскай сталасці, і сведка знаходзяцца разам у часе ўсёй цэлебрацыі.

Станіслаў пытае, чаму нельга кандыдату да канфірмацыі выконваць функцыі міністранта падчас удзялення гэтага сакраманту. Не існуе ніякай забароны прыслугоўваць міністрантам падчас літургіі канфірмацыі, аднак для глыбейшага перажывання асаблівай таямніцы варта ў гэты выключны дзень устрымацца ад выканання абавязкаў міністранта.

Станіславу і ўсім шаноўным чытачам “Каталіцкага Весніка” жадаю пастаяннага ўзрастання ў хрысціянскім жыцці.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Перажыванне суму



**Сёння мы пагаворым пра сум. Не пра той, які па-руску "скука", а пра той, што перакладаецца як "печаль". Як ні дзіўна, але людзей, каторыя маюць здольнасць перажываць сум, не так і шмат.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Сум – гэта рэакцыя на страту. Патрэбна гэта эмоцыя для палягчэння болю ад згубы і страты.

Боль узнікае, калі трацiцца штосьці каштоўнае. Чым большая каштоўнасць, тым больш боль, тым больш мусіць быць сум. Але часта ў рэальнасці гэты боль так цяжка перажываць, што ён "выключаецца", "блакуецца". Звычайна гэтаму спрыяюць думкі і ўнутраныя ўгаворы ці словы блізкіх: "Не сумуй!", "Не перажывай! У цябе ёсць дзеля чаго жыць!", "Адцягні ўвагу! Жыццё не скончылася!", "Не плач!" Людзі слухаюць такія парады, занураюцца з галавой у працу, у новыя праекты, адцягваюць увагу новымі адносінамі, дзецьмі, забаўкамі, збягаюць куды могуць ад сваіх унутраных перажыванняў. Падаецца, што так лягчэй, спакайней. Блізкім то дакладна прасцей, бо не трэба сутыкацца з чужым сумам, чужымі слязьмі, з бездапаможнасцю. Самому ж самотнаму чалавеку складана знаходзіцца са сваім горам, але і побач з ім таксама не проста: не ведаеш, што сказаць, як рэагаваць, куды запрашаць, пачынаеш даваць парады.

Але галоўная праблема ў тым, што боль не павінен заставацца ўнутры, ён мусіць выйсці, перажыцца, перабалець, каб жыць далей якасна, па-сапраўднаму, напоўніцу. Калі вашыя родныя плачуць і гаруюць па страце, гэта добра ў перспектыве, не трэба гэтага палохацца. Праўда, тут могуць быць пытанні з тэрмінам перажывання. Для стратаў першай катэгорыі (тых стратаў, якія з'яўляюцца самымі значнымі ў жыцці чалавека) нармальным лічыцца тэрмін сумавання каля году – году з паловай.

**Усяго ёсць тры катэгорыі стратаў. У дарослых і дзяцей яны крыху могуць адрозніваціся.**

**Першая катэгорыя:**

- Смерць блізкіх;
- Раптоўны разрыў адносінаў з блізкімі;
- Раптоўная страта здароўя, частак цела, якая моцна змяняе стыль і якасць жыцця;
- Распад сям'і для дзіцяці (чым менш год дзіцяці, тым большыя наступствы для яго жыцця нясе гэтая падзея);
- Турэмнае зняволенне пасля выпадковасці;
- Пераезд для дзіцяці з рэзкай зменай жыцця;
- Ранняя шпіталізацыя (для дзіцяці раўназначная страце стабільнасці, як і пры пераездзе);
- Страта хатняй улёбёнай жывёлы (для дзіцяці).

**Другая катэгорыя стратаў пераносіцца таксама цяжка:**

- Расстанне з блізкімі;
- Расстанне з каханымі;
- Расстанне з сябрамі;
- Здрада;
- Развод (успрымаецца як страта будучыні і ўяўленняў пра сваё жыццё);
- Страта працы;
- Страта бізнэсу (банкруцтва);
- Страта важных стасункаў.

**Страты трэцяй катогоры ўжо мешыя:**

- Змена абставінаў для дарослых;
- Разбітая машына;
- Крадзяжы (страта кантролю, бездапаможнасць);
- Змена працы.

Не раз кожны сустракаўся са словамі: "А што тут ужо плакаць? Які сэнс? Нічога не вернеш". Плакаць трэба, калі плачацца. Слёзы – гэта як даніна павагі. Чым большая любоў, тым больш боль, тым больш слёз. Плач дапамагае залячыць раны, ён дзейнічае як гаючы бальзам. Вы адчувалі калі-небудзь палёгку пасля слёз? Праясняўся розум? Было лягчэй брацца за вырашэння праблемаў? Калі на псіхатэрапіі кліент пачынае плакаць, гэта можа быць знакам таго, што справа пайшла, адбыўся прарыў, з'явіўся шанец пачаць новы шлях.

Але, на жаль, часта да барацьбы з болем падключаецца механізм "замарозкі", які мы называем дэпрэсіяй. Дэпрэсія выключае боль. Чалавек пачынае па-філасофску разважаць, нешта тлумачыць сабе і іншым, але разам з адключэннем гора пачынае "тармазіць" і ўсё ўнутранае жыццё чалавека:

1. З'яўляюцца праблемы з мысленнем. Чалавек пачынае марудна ўсё асэнсоўваць, не можа сканцэнтравацца на думках ці справах, цяжка запамінае. У размове ёсць паўзы, забываюцца словы.

2. Праблемы з эмацыйнай сферай. Пачуцці прытупляюцца, не ўсведамляюцца. Тое, што раней прыносіла радасць, цяпер не выклікае эмоцыяў.

3. Праблемы з жаданнямі. З'яўляецца абыякавасць да ўсяго, жаданні знікаюць.

4. Праблемы з фізіялогіяй. Могуць пачацца парушэнні з харчаваннем (булімія, дыстрафія), парушэнні сну (бяссонніца, цяжкасці з прачынаннем, сон не глыбокі), праблемы з каардынацыяй (нешта падае ўвесь час, чалавек не ўпісваецца ў дзверы, стукаецца).

Мы можам дыягнаставаць дэпрэсію, калі супадаюць два сімптомы з розных прыкметаў.

Калі да трох год дзіця перажывае вельмі вялікі боль і пры гэтым "уключае замарозку" – дэпрэсію, то пасля гэты механізм будзе звыклым спосабам спраўляцца са стратамі. Невядома адкуль паяўляюцца восенскія ці вясеннія беспрычынныя дэпрэсіі, страхі і г.д.

Такім чынам, сум – важная эмоцыя, якая дапамагае залячыць раны, перажыць боль, пачаць новы этап жыцця. Сумаваць – важная здольнасць, якую трэба развіваць. Гараваць па страце – жыццёва важны працэс, а нам важна падрымліваць сваіх блізкіх.

Дзякуй за ўвагу!



## Канстанцін Кузьміч з Варапаева:

# "Я рады, што пражыў сваё жыццё з Богам!"

**Канстанціну Казіміравічу Кузьмічу з Варапаеўскай парафіі ўжо 88 гадоў. Пасля выхаду на пенсію ў 1990 годзе ён дапамагаў аднаўляць касцёл у Дунілавічах, потым прымаў самы актыўны ўдзел у будаўніцтве святыні ў Варапаеве. Быў старшынёй касцельнага камітэта, закрыстыянінам.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Пазнаёміліся мы з Канстанцінам Кузьмічом падчас прэзентацыі кнігі Аліны Латыш "Свяціся імя Тваё...", якую яна прысвяціла гісторыі адраджэння парафіі ў Варапаеве. Спадар Канстанцін падзяліўся цікавым выпадкам, які здарыўся з ім падчас службы ў савецкім войску ў пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя:

– Урэзаўся мне ў памяць адзін выпадак. Было гэта ў Выбаргу, калі я служыў у арміі. Да сёння лічу, што дапамог мне тады Бог, бо я заўсёды насіў з сабой малітоўнік, які мама мне дала, калі я адыходзіў у войска. І я ў вольны час адыдуся дзе адзін, каб не бачылі, і чытаю яго. Асабліва любіў адзін на беразе Фінскага заліва маліцца.

І вось аднойчы іду я па ўзбочыне дарогі, а насустрач машына едзе па іншым баку. І раптам на мяне! Што там зрабілася, нават не ведаю. І збіла гэта машына мяне. Памятаю, быў маёр там і салдат-шафёр. Гэты маёр адразу выскачыў, мацюкаецца на шафёра: "Нашто ты чалавека збіў?!"

Быў гэта УАЗік ваенны, пасадка ў яго нізкая. Ударыў ён мяне, збіў з ног і праехаў з ног аж да галавы. Я падняўся: каб табе дзе драпіна! Нічога нідзе няма: ні сіняка, ні якой ранкі! Гэта проста цуд Божы!

Я тады толькі папрасіў іх два кіламетры мяне падвезці па службе. А шафёр, як цяпер памятаю, быў белы, як снег, думаў, што забіў мяне.

Таму хачу сказаць, што гэта Пан Бог пашкадаваў мяне і выратаваў. Да гэтай пары дзякую Богу за тое!

А яшчэ дзякую Яму, што даў магчымасць папрацаваць мне ў гэтым касцёле. Тут шмат што маімі рукамі зроблена. І алтар, і амбона, і шмат іншых рэчаў... І ў касцёле ў Дунілавічах ёсць мая праца. Я рады, што пражыў сваё жыццё з Богам!

Працавалі мы шчыра, не так як некаторыя цяпер, абы ўрваць... Цяпер нейкі страшны час настаў. Свет жыве, як на вулкане. Людзі хочуць мець шмат грошай, шукаюць багацця, а Бога шукаць не хочуць. А трэба жыць з Богам, маліцца да Яго, і ўсё будзе тады ў жыцці добра.

Ёсць у мяне прыёмнічак старэнькі, гадоў сорак яму, але працуе яшчэ. Па ім я рэгулярна слухаю Радыё Ватыкана, трансляцыю Імшы з касцёла Святога Крыжа ў Варшаве. І "Каталіцкі Веснік" заўсёды выпісваю і чытаю. І ўсім чытачам хачу пажадаць, каб заўсёды жылі з Богам!



*Шмат што ў храме зроблена рукамі Канстанціна Казіміравіча*

# Дзень духоўных сустрэч у Расонах



**12 лістапада, ва ўспамін святога біскупа і мучаніка Язафата Кунцэвіча, адбылася сустрэча духавенства і кансэкраваных асобаў у Расонах.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

Памяць царкоўнага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Язафата Кунцэвіча ўшанавалі сваёй прысутнасцю прадстаўнікі Грэка-Каталіцкай Царквы. Будучы святы быў Полацкім арцыбіскупам, умацоўваў грэка-каталіцтва ў гэтым краі і лічыўся прыхільнікам еднасці Заходняй і Усходняй Цэркваў.

З гэтай нагоды гамілію да прысутных святароў, манахінь і мясцовых парафіян прамовіў а. Зміцер Грышан, святар БГКЦ з Віцебска, які прыгадаў гісторыю жыцця і душпастырскую дзейнасць св. Язафата, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.

Пастырская сустрэча – гэта не толькі св. Імша, якую цэлебруе ардынарый дыяцэзіі, а таксама і малітва брэвіярыем, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, магчымасць споведзі, канферэнцыя духоўнага айца, вырашэнне розных пытанняў, спраў і аб'явы на найбліжэйшы час і, безумоўна, супольны абед.

# У Германавічах Шаркаўшчынскага дэканату паляўнічы сезон пачалі з Імшы ў касцёле

**Падзея адбылася ў суботу 3 лістапада, калі Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць святога Губерта.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

Богаслужэнне распачалося ў восем гадзін раніцы з урачыстага ўваходу ў святыню паляўнічых са сваім сцягам пад гукі паляўнічага рога. У храме сабраліся аматары палявання з Шаркаўшчыны, Глыбокага, Браслава і нават з Мінска.

Усіх прысутных у храме прывітаў пробашч парафіі Перамянення Пана ў Германавічах кс. Ян Пугачоў. Ён таксама падзякаваў за падтрымку кс. Валерыю Орсіку з Оршы і кс. Уладзіміру Заянчкоўскаму з Лепеля, якія адмыслова прыехалі на гэту ўрачыстасць. Дарэчы, ксёндз Уладзімір з'яўляецца паляўнічым, а ксёндз Валерый збіраецца ім стаць. Ксёндз Ян папрасіў ксяндза Валерыя ўзначаліць гэту святую Імшу, а ксяндза Уладзіміра прамовіць слова да паляўнічых.

Імша распачалася з гучання паляўнічага рога. На самым пачатку богаслужэння кс. Валерый Орсік асвяціў абраз святога Губерта, які потым будзе змешчаны ў доме паляўнічых Германавіцкай паляўнічай дачы.

Ксёндз Уладзімір прачытаў урывак з Кнігі Роду, дзе распавядаецца пра тое, як Бог стварыў гэты свет. Як вынікае з Бібліі, менавіта чалавека Бог зрабіў галоўнай асобай у створаным Ім свеце.

Падчас чытання Бібліі ўсе звярнулі ўвагу на цікавы выпадак: калі святар чытаў урывак пра стварэнне Богам птушак і жывёлаў, у касцёл заляцела птушка.

У сваім слове, якое кс. Уладзімір Заянчкоўскі скіраваў найперш да паляўнічых, святар заклікаў іх берагчы прыроду і адказна да яе ставіцца. Шмат хто з недаверам ставіцца да таго, што некаторыя ксяндзы любяць паляванне і здабываюць жывёл. Але, як сказана ў Святым Пісанні, Бог стварыў прыроду для чалавека, каб ён кіраваў ёю. Галоўнае, каб улада чалавека над прыродай ажыццяўлялася разумна.

Святар распавёў пра свой удзел у паляўнічых святах у Польшчы і адзначыў, што яму падабаюцца некаторыя польскія паляўнічыя тэрміны:

— Паляўнічая вышка ў іх называецца амбонай. Вельмі прыгожа, што чалавек ідзе на амбону, і гэта гаворыць аб тым, што ён з'яўляецца настаўнікам у лесе, ён з'яўляецца адказным у лесе. Калі ён ужо залез на амбону, на гэту вышку, то павінен думаць і разважаць над тым, што ён робіць.



*Алег Селях*

Ксёндз Уладзімір коратка ўзгадаў гісторыю навяртання св. Губерта, а таксама падкрэсліў важнасць сённяшняй падзеі і выказаў спадзяванне, што гэта стане добрай традыцыяй:

—Хай ён будзе гістарычным днём, калі мы святкуем успамін святога Губерта. І каб святы Губерт намі заўсёды апекаваўся, трэба прасіць яго аб патрэбных ласках, каб не было небяспечных выпадкаў на паляванні.

Святар падкрэсліў, што тут не трэба выпрацоўваць святога, бо калі свядома не выконваць патрабаванняў бяспекі, то святы Губерт нас не абароніць. А напрыканцы ён пажадаў паляўнічым удалага палявання ў новым сезоне.

Перамяненне Святых Дароў на гэтай святой Імшы адбывалася пад гучанне паляўнічага рога.

Напрыканцы Імшы да святароў і ўсіх прысутных звярнуўся вядучы паляўнічазнаўца з Шаркаўшчыны Алег Селях. Ён выказаў падзяку ўсім святарам і ксяндзу Яну Пугачову асабіста за гэту ўрачыстасць, а Пану Богу за магчымасць здабываць звера. Таксама ён адзначыў сімвалічнасць таго, што на абразе са святым Губертам ёсць выява аленя, і 50 аленяў былі выпушчаны зараз на тэрыторыі Германавіцкай паляўнічай дачы.

— Паляўнічым мы кажам ні пуха, ні пяра, а ўсім добрым людзям міру, здароўя і дабра сёння і заўжды, — такімі словамі закончыў свой выступ Алег Селях і ўручыў памятны падарунак ксяндзу Яну.

Закончылася Імша таксама гукамі паляўнічага ражка. Пасля благаслаўлення, якое паляўнічым і ўсім вернікам удзяліў ксёндз Валерый, усе выйшлі на прыступкі храма, каб зрабіць агульны здымак.

А ўжо пасля гэтага ксёндз Уладзімір асвяціў машыны і паляўнічы рыштунак удзельнікаў Імшы. Паляўнічыя ж адправіліся на сваё першае паляванне ў гэтым асенне-зімовым сезоне.



# Зберажом святыню

## Верніцы з Ушачаў робяць ружанцы, каб зарабіць

*...Узляціць малітва высока.*
*Абначуе спагада ў храме.*
*Боль зямны знікне ў помірг вока.*
*Плач нябесны ўпадзе дажджамі.*

**Гэтыя словы паэта Рыгора Барадуліна верніцы з Ушачаў узялі за эпіграф да сваёй акцыі "Зберажом святыню разам". Мэта іх акцыі – сабраць сродкі на рамонт свайго храма.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Чаму менавіта верш Рыгора Барадуліна? Бо ён жа іх зямляк! Але не толькі. Рыгор Барадулін, калі прыязджаў на сваю малую радзіму, заўсёды заходзіў у касцёл. Тэрэза Крыванос, парафіянка з Ушачаў, успамінае:

– Рыгор Барадулін і Ушачы – гэта такія дзве велічыні, якія разарваць проста немагчыма. Як ён не мог без Ушачаў, так і мы не ўяўляем без яго нашай мясцовасці. А для нашай парафіі ён быў проста дзядзька. Ён нават патрабаваў, каб яго не называлі Рыгор Іванавіч, а менавіта дзядзька Рыгор. Прыходзіў сюды як сваяк для кожнага з нас. Калі наведваў храм, адзін або са сваякамі, то садзіўся сціпла з краю, у першыя лаўкі не ішоў, хоць мы яго і запрашалі. Ціха маліўся, і калі падчас Імшы мы жадалі яму супакою, заўсёды плакаў.

У сталым веку Барадулін часта не вытрымліваў, і слёзы на вачах былі ў яго нават, калі мы прыносілі яму дадому кавалак ушацкага сала або пірага, загорнутыя ў сурвэтку. Ён іх цалаваў і плакаў, казаў: "Вы прынеслі мне кавалак майго дзяцінства".

Гісторыя Касцёла на Ушаччыне вельмі драматычная. Прычым гэта датычыць не толькі саміх будынкаў, а ўсёй каталіцкай супольнасці. Першы ўціск яна спазнала пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Царскі ўрад тады забраў будынак касцёла ў вернікаў і аддаў яго пад праваслаўную царкву. Касцельная маёмасць, далёка не ўся, была перанесена ў суседні храм у Селішчы.

Але напачатку XX стагоддзя палітыка царскіх уладаў у адносінах да каталікоў стала больш талерантнай, і ва Ушачах паўстаў новы храм.

"Лёс касцёла святога Лаўрэна ва Ушачах вельмі драматычны, – распавядае Валянціна Відзевіч. – Ён пачаў будавацца ў 1908 годзе. І да таго часу, як ён паўстаў, а будаваўся храм даволі доўга, адбыліся такія драматычныя, нават трагічныя падзеі як Першая сусветная вайна, потым рэвалюцыя, пасля грамадзянская вайна, пераслед вернікаў... Таму Касцёл тут не меў ніякіх умоў да існавання".

Савецкая ўлада забрала будынак у вернікаў, арыштавала святара, але і гэтым усё не скончылася. На Ушаччыне жыло шмат каталікоў, толькі ў саміх Ушачах іх было больш за паўтары тысячы, а новая ўлада лічыла іх людзьмі ненадзейнымі, бо побач была тагачасная мяжа з Польшчай. Больш за тое, іх нават за людзей не лічылі, а называлі недабрадзейнымі элементамі. Таму было прынятае рашэнне высяляць іх у глыб краіны, а гэтыя землі засяляць людзьмі немясцовымі. І якраз на Ушаччыне новая ўлада найбольш "пастаралася" ў гэтым плане. Гэта адна з прычынаў, што вернікаў зараз тут вельмі мала.

Новым уладам святыні былі не патрэбны, непатрэбным аказаўся і ўшацкі касцёл, руіны якога дастаялі да канца XX стагоддзя.



– Стаялі толькі адны сцены, на якіх раслі ўжо бярозы і рабіны, – успамінае Валянціна Відзевіч, – але Бог нас не пакінуў. У 90-х гадах да нас стаў прыязджаць ксёндз Мечыслаў Янчышын. Спачатку ён распачаў працу па аднаўленні нашай парафіі як каталіцкай супольнасці. А потым ужо паўстала пытанне аб аднаўленні касцёла.

Так дзякуючы працы святароў і вернікаў быў адроджаны храм ва Ушачах. Але ўтрымліваць такі вялікі будынак, які больш за паўстагоддзя стаяў без даху, маленькай парафіі не пад сілу.

"Парафія ва Ушачах, якая зараз носіць імя святога Лаўрэна, знаходзіцца ва ўсходняй частцы Беларусі, дзе касцёл быў зачынены ўжо з 1918 года, – распавядае пробашч парафіі кс. Віталь Галец. – Таму большасць жыхароў тут – людзі няверуючыя. На нядзельную Імшу збіраецца толькі недзе каля дваццаці пяці чалавек. Таму тут патрэбна найбольш місіянерская праца, у якой парафія паказвае, што яна заахвочаная адбудоўваць Касцёл як містычнае цела Хрыста. І як прыклад гэтай працы – выраб гэтых ружанцаў".

"Ідэя плясці ружанцы ўзнікла ў нашага ксяндза Віталя, – прадаўжае размову Ірына Вер'ясава, якая каардынуе гэту працу. – Ён паказаў нам плецены ружанец. І вось Ганна пачала распрацоўваць эскізы, дызайн, распрацавалі этыкеткі да ружанцаў і пачалі работу. Ганна правяла нам майстар-клас, навучыла нас усіх. Вось так і пляцём".

Ганна Струй з вялікай любоўю расказвае пра сваю працу. Бачна, што для яе гэта не праца, а захапленне:

– Сама справа гэта няцяжкая, нават цікавая. Часта прыходзіш з працы дадому, і хочацца неяк адпачыць ад усіх гэтых клопатаў, што былі з табой цэлы дзень. Садзішся тады за ружанец, чытаеш "Ойча наш", "Вітай, Марыя", і думкі самі сабой накіроўваюцца ў іншы бок. Адчуваецца прыліў сіл, зусім іншы настрой.

Кожны з ружанцаў, які мы робім – своеасаблівы. Найперш таму, што гэта выраб, зроблены рукамі. І як кожная такая рэч, яна мае частку душы, настрою таго чалавека, які яе зрабіў. Кожны ружанец перш за ўсё непаўторны. Таму што ён робіцца з малітвай, з любоўю да тых людзей, што будуць імі карыстацца.

Мы, калі робім свае ружанцы, перш за ўсё молімся. Найперш за адраджэнне нашай парафіі, аб адраджэнні касцёла на Ушаччыне, таму што менавіта гэта і падштурхнула нас займацца гэтай справай. Таксама мы думаем пра тых людзей, што будуць маліцца на іх. Каб малітвы, з якімі вернікі будуць звяртацца да Маці Божай, да Пана Езуса, даходзілі да іх. Каб вера, з якой яны будуць чытаць гэты ружанец, рабіла іх больш моцнымі, больш упэўненымі ў жыцці.

Жанчыны кажуць, што яны навучыліся плясці ружанцы за 20 – 30 хвілін. Ёсць нават у іх свае лідары ў гэтай справе. Таму і вырашылі пашырыць сваю справу за межамі не толькі сваёй парафіі, але нават і дыяцэзіі.

Ірына Вер'ясава сказала:

– Першыя пакупнікі ў нас былі мясцовыя парафіяне, таксама ў гэтым годзе мы прадавалі ружанцы ў Будславе падчас фэсту, у Браславе. У наступным годзе маем намер паехаць на "Славянскі базар".

– І, думаеце, іх там будуць купляць? – пытаюся з недаверам.

– А чаму не, каталікі ж там будуць, – хорам адказваюць жанчыны.

– Там жа не толькі каталікі з Беларусі прыязджаюць. Такім чынам будзем выходзіць на міжнародны ўзровень, – жартуе спадарыня Ірына. Хаця бачна, што зусім не жартуе.

⇨



# разам!

## грошы на рамонт храма

⇨ Раз так вырашылі, то абавязкова пра іх ружанцы даведаюцца і за межамі Беларусі.

– А зараз толькі ва Ушачах прадаецe?

– Мы прапанавалі таксама нашы ружанцы ў касцёл святой Барбары ў Віцебску і ўжо дамовіліся пра іх рэалізацыю ў Мінску ў касцёлах. Таксама чакаем прапаноў ад святароў і ад тых людзей, што займаюцца продажам дэвацыяналій. Акрамя ружанцаў у нас ёсць невялікія плеценыя бранзалеты. А яшчэ мы робім абразы Маці Божай Ружанцовай Ушацкай.



Гісторыя гэтага абраза вельмі цікавая: ён вядомы яшчэ з XVIII стагоддзя, захоўваўся ў дамініканскім касцёле, пасля закрыцця яго быў перанесены ў касцёл у Селішча. У часы ліхалецця ён знік і быў аднаўлены па невялікай копіі, што захавалася ў адной з верніц. Пра гісторыю гэтага абраза мы абавязкова распавядзём у бліжэйшых нумарах "Каталіцкага Весніка". Пакуль жа скажам тое, што ў дамініканаў была нават песня, у якой яны праслаўлялі Марыю ў гэтым абразе. Спеў гэты захаваўся да нашых дзён, праўда на польскай мове.

– Дык вось, дзядзька Рыгор пераклаў на беларускую мову гэты спеў, – кажа Тэрэза Крыванос. – І мы яе зараз спяваем. Музыку да гэтых слоў напісала наша парафіянка Алеся Каваленка. Яна была ў нас арганісткай, цяпер жыве і працуе ў Польшчы. Але раз на год прыязджае з мужам на радзіму, яны заўсёды прыходзяць у касцёл, і мы разам з ёй спяваем гэту песню.

– Калі біскуп Алег Буткевіч даведаўся пра нашу такую працу, то таксама прыняў у ёй удзел. Ён ахвяраваў нам крыжыкі, якія прывёз з Італіі. Такім чынам ён падтрымаў нас, – дзяліцца Ірына Вер'янава і працягвае:

– Каб падтрымаць наш праект "Зберажом святыню разам", дастаткова замовіць у нас ружанцы, і зрабіць такім чынам свой унёсак у гэту добрую справу. Бо ўсе сродкі, якія мы збяром, будуць накіраваныя на рамонт нашай святыні.

Гэта акцыя праходзіць у нас ад пачатку лета. Акрамя продажу ружанцаў, мы паставілі ў крамах скарбонкі, і людзі ахвяруюць. Таксама мы збіраем сродкі ў працоўных калектывах нашага горада і раёна. Людзі не адмаўляюцца, даюць. Мы ўдзячныя ўсім, хто спрычыніўся да гэтай годнай справы – ахвяраваў сродкі на нашу святыню.

Таксама мы ўсёй нашай невялікай парафіяй просім чытачоў "Каталіцкага Весніка", іншых рэсурсаў аб малітве. Перш за ўсё, за адраджэнне нашай парафіі. Нас вельмі мала, а хацелася б, каб наш касцёл напоўніўся людзьмі. Таму просім аб малітве за адраджэнне Ушацкай парафіі.

Вядома, толькі гэтай працай на рамонт вялікага храма сродкаў не збярэш. Але як заўважыў ксёндз Віталь, Бог дапамагае ў першую чаргу тым, хто і сам не сядзіць склаўшы рукі, а таксама робіць у гэта ўнёсак. Спадзяёмся, дзякуючы Божай дапамозе, удасца знайсці і іншых фундатараў.

Бо як заўважыла Валянціна Відзевіч:

– Мы ўдзячныя Пану Богу, што Ён выбраў гэта месца, каб тут стаяла яго святыня. Гэта месца святое, калі Ён хацеў, каб адсюль узносілася малітва. Мы спадзяёмся, што і зараз Бог нас не пакіне без дапамогі.

**Кожны з нас таксама можа зрабіць унёсак у справу рамонту храма ва Ушачах. Дастаткова толькі замовіць тут ружанец для сябе або для сваіх блізкіх. Звяртайцеся па тэл.: +375 29 598 45 17 *(Ірына Вер'ясава)* і +375 29 587 44 76 *(кс. Віталь Галец)*.**

**Зберажом святыню разам!**




# Жанчыны Бібліі

**Правер свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка"**

1 Што азначае імя "Ева"?



**А.** Косць ад косці
**Б.** Створаная з рабра
**В.** Маці ўсіх жывых

2 Чыя сваячка ператварылася ў саляны слуп? (Быц. 19, 26)



**А.** Жонка Абрагама
**Б.** Жонка Лота
**В.** Сястра Майсея

3 Як звалі маці цара Саламона? *(3 Царстваў 1, 11)*



**А.** Рут
**Б.** Вірсавія
**В.** Эстэр

4 Імя жанчыны, якая нарадзіла Божую Маці?



**А.** Эўніка
**Б.** Ганна
**В.** Тавіфа

5 Якой жанчыне з'явіўся арханёл Габрыэль?



**А.** Веранiцы
**Б.** Марыі
**В.** Альжбеце

6 Жанчына, якая была сваячкай Дзевы Марыі, жонкай Захарыі і маці Яна Хрысціцеля?



**А.** Марыя Клеопава
**Б.** Ганна Прарочыца
**В.** Альжбета

7 Жанчына, якая сваімі слязамі абмыла Езусу ногі і абцёрла сваімі валасамі?



**А.** Марфа з Віфаніі
**Б.** Лідыя
**В.** Марыя Магдалена

8 Дачка якой жанчыны ва ўзнагароду за свой танец перад Ірадам папрасіла галаву Яна Хрысціцеля?



**А.** Ірадыяда
**Б.** Саламея
**В.** Сапфіра

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на тэст глядзіце на старонцы 16**

# Каляндар на снежань



**У літургічным каляндары 2 снежня распачынаецца час Адвэнту.**

Адвэнт (ад лац. Adventus – прышэсце) – час радаснага чакання нараджэння Збаўцы Езуса Хрыста.

Гэта багаты сімволікай чатырохтыднёвы перыяд падрыхтоўкі да святаў Божага Нараджэння, які скіроўвае нашыя думкі на паглыбленае перажыванне канчатковага прыйсця Езуса Хрыста ў хвале. Кожная нядзеля Адвэнту прысвячаецца пэўнаму ўспаміну, якому адпавядаюць евангельскія чытанні падчас святой Імшы: першая нядзеля прысвечана будучаму прыйсцю Езуса Хрыста ў канцы часоў, другая і трэцяя – Яну Хрысціцелю, чацвёртая – падзеям, якія непасрэдна папярэднічалі нараджэнню Сына Божага і асаблівай ролі Панны Марыі ў таямніцы Богаўцелаўлення. З Адвэнтам у Касцёле таксама распачынаецца новы літургічны год.

**6 снежня – успамін святога Мікалая.**



Святы Мікалай жыў у III ст. у Малой Азіі. Ён быў біскупам Міры (сучасная Турцыя). Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай паціху падкінуў грошы тром маладым дзяўчынам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчынам удалося захаваць цнатлівасць і добра выйсці замуж. Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, якія гінулі ў моры. Пасля смерці Мікалая яго рэліквіі захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзеныя італьянскімі купцамі і вывезеныя ў г. Бары на поўдні Італіі. Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць Цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. Святы Мікалай з'яўляецца апекуном Расіі, а на Захадзе ён стаў правобразам славутага Санта-Клаўса. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.



**8 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі яно перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду пра Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэтая ўрачыстасць лічыцца абавязковай.

**25 снежня – Божае Нараджэнне.**



Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюць нечаканых гасцей. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае брацьпастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – успамін святога Стэфана, першамучаніка.**

Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – дзень святога Яна, апостала.**



Рыбак, ён быў улюбёным вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Аліўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100 г. Ян з'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангеллем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол. Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**28 снежня – успамін святых немаўлят-мучанікаў.**

Урачыстацьь гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі *(Мц 2, 13- 18)*.

**30 снежня – Свята Святой Сям'і.**



Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

*Падрыхтавала*
**Вікторыя Колзун**

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, іменіны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня** – **іменіны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукамль)* і **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня** – **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**11 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*; **іменіны** адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*;

**14 снежня** – **іменіны** адзначае **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**16 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталій Галец** *(Ушачы)*;

**24 снежня** – **іменіны** адзначаюць **кс. Адам Дынак** *(Пінск)* і **а. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**25 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**26 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*.

*Падрыхтаваў*
**Зміцер Лупач**



# Ці карае Бог дзяцей за грахі бацькоў?

*– Хвала Хрысту! Ці карае Бог дзяцей за грахі бацькоў?*
*Святлана*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала навекі! Дзякую за актуальнае пытанне. Вельмі часта ўзнікае гэтае пытанне ў вернікаў, таму тут паспрабуем знайсці на яго адказ.

У Старым Запавеце ёсць словы, якія некаторыя, магчыма, трактуюць маніпуляцыйна і "вераць", што Біблія быццам навучае пра кару за "грэх пакаленняў". Такая трактоўка з пункту гледжання сучаснай біблійнай тэалогіі з'яўляецца памылковай. Чаму?

Гаворка тут ідзе пра словы з Кнігі Зыходу: *"Не пакланяйся ім і не ўшаноўвай іх. Бо Я Пан Бог твой, Бог зайздросны, Які карае дзяцей за беззаконне бацькоў да трэцяга і чацвёртага пакаленняў тых, хто ненавідзіць Мяне"* (Зых 20, 5).

Гэтыя словы павучаюць нас не пра пакаранне за грэх, а пра наступствы граху. Наступствы людскіх грахоў могуць быць адчувальнымі ў наступных пакаленнях. Бог сказаў ізраільцянам, што іхнія дзеці адчуюць наступствы паводзін ўласных бацькоў як вынік іхняй непаслухмянасці і нянавісці да Бога. Дзеці, выхаваныя ў такім асяроддзі, натуральным чынам будуць браць дрэнны прыклад з бацькоў (як галоўнага аўтарытэту) і будуць чыніць падобнае ідалапаклонства, таму што пачнуць кіравацца ужо "пратапта́ным" бацькамі шляхам непаслухмянасці.

Вынікам непаслухмянага пакалення была вельмі глыбокая разбэшчанасць (распуста) у іхніх сэрцах, што ажно павінна было мінуць некалькі пакаленняў, каб яны змаглі адвярнуцца ад гэтага.

Бог не робіць нас адказнымі за грахі нашых бацькоў, хоць часам мы церпім праз наступствы, што прыходзяць у выніку іхніх грахоў, як і напісана пра гэта ў Кнізе Зыходу 20, 5.

У Старым Запавеце у кнізе прарока Эзэхіэля чытаем: *"Душа, якая грашыць, памрэ; сын не панясе віны бацькі, і бацька не панясе віны сына; праўда справядлівага пры ім і застаецца, і беззаконнасць беззаконнага пры ім застаецца"* (Эз 18, 20).

Гэтыя словы выразна кажуць, што пакаранне за грахі панясе толькі тая асоба, якая зграшыла. У VII ст. да Хрыста праўда пра вечную ўзнагароду не была яшчэ вядомая ізраільцянам. У штодзённым жыцці яны заўсёды кіраваліся правілам справядлівасці, якое за кожнае зло патрабавала пакарання. Калі вінаваты паміраў без пакарання, лічылася, што за неадпакутаваныя ім грахі панясуць віну родныя. Гэтае нібыта правіла выклікала супрацiў Эзэхіэля, які не пагадзіўся з распаўсюджаным меркаваннем пра калектыўную адказнасць за грахі продкаў. Ён навучаў, што Бог не з'яўляецца Богам помсты, Які бяздушна падлічвае чалавечыя правіны і заслугі. Для Яго важным з'яўляецца кожны чалавек, і да кожнага Ён ставіцца індывідуальна. Прарок у наступных вершах кажа ўжо пра магчымасць адпакутаваць за правіны, тым больш, што Бог прабачае кожнаму, хто намагаецца выправіць учыненыя правіны і крыўды.

Пра асабістую адказнасць чалавека за ўчынены грэх можам прачытаць у Кнізе Другазаконня: *"Хай не будуць забіваныя бацькі за сыноў і сыны за бацькоў, але хай кожны памірае за свой грэх"* (Дрг 24, 16).

У Евангеллі паводле Яна чытаем: *"Праходзячы, Езус убачыў чалавека, сляпога ад нараджэння. Вучні спыталіся ў Яго, кажучы: "Раббі, хто зграшыў: ён ці бацькі ягоныя, што ён нарадзіўся сляпым?" Езус адказаў: "Ні ён не зграшыў, ні бацькі ягоныя, але сталася гэта дзеля таго, каб выявіліся праз яго справы Божыя"* (Ян 9, 1-3).

Пытанне вучняў пра сэнс цярпення сляпога ад нараджэння дапускае меркаванне пра спрадвечную сувязь цярпення з грахом. Хто зграшыў: "ён ці бацькі ягоныя?". Несумненна, шмат цярпення і зла ў свеце – наступствы людскіх грахоў, але існуе таксама і "незаслужанае цярпенне".

"Хто зграшыў?" – не з'яўляецца адпаведным пытаннем. Справа віны ў цярпенні другасная. Важным з'яўляецца тое, што праз цярпенне "выяўляюцца справы Божыя". Адпаведнае пытанне павінна гучаць: "Які сэнс мае маё цярпенне? Што Бог хоча мне праз яго сказаць? На што трэба звярнуць увагу?"

> **"У гісторыі збаўлення было толькі адно выключэнне, калі адзін Чалавек узяў на сябе грахі ўсяго свету і заплаціў за іх цану"**

Адказам Бога на пытанне пра сэнс цярпення з'яўляюцца мука і смерць Езуса, Сына Божага. Бог не скасаваў пакуты на зямлі, але прыняў іх на сябе. Такім чынам Пан Езус выразна адмяжоўвае сувязь хваробы чалавека з грахом ягоных бацькоў, з г. зв. "грахом пакаленняў".

Як сказаў адзін французскі паэт, драматург, эсэіст, славуты рэлігійны пісьменнік XX ст. Поль Клодэль, "Бог не прыйшоў, каб вытлумачыць цярпенне, але прыйшоў, каб напоўніць сваёй прысутнасцю".

Зло і цярпенне – гэта драма не толькі для чалавека, але і для Бога. Цярпенне канчаткова можа перамагчы толькі Любоў! Толькі Любоў надае сэнс усяму і дазваляе перажыць найцяжэйшае.

Драмай для чалавека не з'яўляецца тое, што ён пакутуе, але тое, што гэтае цярпенне змарнаванае, непатрэбнае, адкінутае. Калі не хапае любові як сэнсу цярпення, тады яно з'яўляецца немагчымым, каб прыняць на сябе.

"Грэх пакаленняў" супярэчыць праўдзе пра Божую Міласэрнасць і Ягоную Любоў, якая прабачае. Нават калі люд Старога Запавету бачыў у розных няшчасцях Божае пакаранне, то для Люду Новага Запавету такое пераканенне – чужое. Кожны чалавек асабіста нясе адказнасць перад Богам выключна за свае грахі.

У гісторыі збаўлення было толькі адно выключэнне, калі адзін Чалавек узяў на сябе грахі ўсяго свету і заплаціў за іх цану, каб грэшнікі былі цалкам апраўданыя і асвечаныя перад Божым абліччам. Гэтым чалавекам быў Езус Хрыстус.

*"Бо таго, хто не ведаў граху, Ён учыніў грахом замест нас, каб мы ў Ім сталіся справядлівасцю Божай"* (2 Кар 5, 21).

Памятайма, што Словы Святога Пісання заўсёды тлумачацца ў кантэксце ўсёй гісторыі збаўлення, згодна з Традыцыяй Касцёла.

Спадзяюся, што адказаў на Вашае пытанне. Беражы Вас Бог!



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Ганна Кірплюк** *(Варапаева)*, **Людміла Каросцік** *(Параф'янава)*, **Марыя Мажэйка** *(Варапаева)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Кашчыц С.** *(Навасады)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Аляксандра Гушча** *(Оцкавічы)*, **Францішак Камянецкі** *(Докшыцы)*, **парафіяне з Ваўкалаты, парафіяне з Ушачаў, Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Феакціства Л.М.** *(Камарова)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Ганна Асоцкая** *(Сіцькова 2)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Сяргей Сурыновіч**! Шчыра віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (11 лістапада)! Няхай Міласэрны Бог адорыць Вас моцным здароўем, невычэрпным натхненнем, нязгаснай любоўю, вытрымкай і цярплівасцю! Божай дапамогі Вам і благаславення ва ўсіх пачатых справах! Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю, а Дух Святы хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за Вашу ахвярную працу на Божай ніве!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Друі (Браслаўскі раён)***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч**! Шчыра віншуем Вас з імянінамі (5 лістапада)! Дзякуем Пану Богу за ўсё! Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Славамір, апекі Маці Божай на Вашым шляху! Няхай Пан Бог адорыць Вас моцным здароўем, спакоем і даўгалеццем!*

***Удзельнікі руху "Апостальская дапамога душам чыстцовым" з касцёлаў у Мёрах, Ідолце, Павяцці***

## Хвала Хрысту!



*Ад усяго сэрца віншуем **ксяндза Яўгена Міхайлава** з нагоды імянін (30 лістапада)!*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Яўген, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых дароў Духа Святога, каб Вашае сэрца і надалей адкрывалася на неабсяжную Божую любоў! Няхай побач з Вамі заўсёды будуць паплечнікі з гарачымі сэрцамі, якія дапамагаюць прывесці бліжніх да Хрыста. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і супакоем, а Маці Божая і святы Заступнік хай апякуюцца ў кожным імгненні жыцця!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі капліцкі Божай Міласэрнасці (аг. Навасёлкі, Лучайская парафія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму **ксяндзу-пробашчу Станіславу Мжыглуду** з нагоды Дня нараджэння (13 лістапада)!*

*Няхай здароўе будзе моцным, сілы бясконцыя, а радасць штодзённай! Няхай Вас заўсёды атачаюць промні Божай Міласэрнасці, моцы Святога Духа і апекі Маці Божай Валадаркі Азёраў, няхай заўсёды добры Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а Святы заступнік знаходзіцца побач!*

*Дзякуем Пану Богу і Вам за служэнне ў нашым Санктуарыі, за Божае слова, за павучальныя казанні, за шчырую малітву, за цярплівасць, за прыклад пабожнасці, за добрае і чулае сэрца, за клопат пра людзей і за тое, што Вы з намі і для нас, а Вашым бацькам – за сына-святара!*

***З малітвай, вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*У нашага былога пробашча **ксяндза Алега Півавара** 6 лістапада – Дзень нараджэння, а 12 лістапада – дзень святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Алег! Сардэчна віншуем Вас і жадаем Божага благаславення, Божых ласкаў, моцнага здароўя, радасці, добрага настрою, шчодрага плёну ў Вашай нялёгкай душпастырскай працы! Вы заўсёды, дарагі ксёндз Алег, застаняцеся ў нашых сэрцах. Мы кожны дзень молімся за Вас і будзем рады сустрэчы з Вамі!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў!*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі Святога Айца Піа, г.п. Лёзна***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз-пробашч Алег Півавар**! З нагоды дня нараджэння і дня святарскага пасвячэння дасылаем Вам найлепшыя пажаданні, дзякуем за клопат пра нас, за ўсмешку і ўсё атрыманае дабро!*

*Няхай Святы Дух адорвае Вас, шаноўны ксёндз Алег, сваімі дарамі, а Маці Божая хай будзе заўсёды побач! Моцнага Вам здароўя, доўгіх гадоў святарскага служэння!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Ваўкалаце***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Алег Півавар**! Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння (6 лістапада) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада)!*

*Мы выказваем Вам вялікую ўдзячнасць за нястомны клопат пра нас, за духоўнае аднаўленне парафіі, за руплівую працу з моладдзю, за арганізацыю Святых Місій, за магчымасць сустрэчы з Папам Рымскім Францішкам у Аглоне, за будаўніцтва новай капліцы ў вёсцы Гарадзішча!*

*Зычым Вам Божай ласкі і апекі, плёну і аптымізму, цярпення і вытрымкі, каб і надалей Вы маглі палымяна несці Божае слова людзям!*

*Нашы найлепшыя пажаданні Вашым бацькам, здароўя, шчасця і дабрабыту ім на доўгія гады!*

***Вернікі з в. Гарадзішча (Ваўкалацкая парафія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*30 лістапада адзначае імяніны наш паважаны **пробашч Андрэй Букштан**.*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі айцец Андрэй, поспехаў на шляху Божага паклікання, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, шчырых і адкрытых людскіх сэрцаў, дапамогі Пана Бога і апекі Маці Божай! Няхай заўсёды будзе ў Вас моцнае здароўе і добры настрой!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў г. Докшыцы***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра і сардэчна дзякуем **ксяндзу Віктару Каспяровічу** за дапамогу ў рамонце нашай капліцкі Сэрца Езуса, якая знаходзіцца ў в. Вялікія Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці (Рубяжэвіцкая парафія).*



*Ад усяго сэрца жадаем нашаму ксяндзу моцнага здароўя і апекі Маці Божай!*

***З павагай і малітвай, Марыя Карніцкая, Лена Мазур, Галіна Ярашынская***

## Шаноўны ксёндз Андрэй Кулік!



*Прыміце нашы самыя светлыя і сардэчныя віншаванні, словы вялікай удзячнасці з нагоды Вашых імянінаў! Шчасця вам і моцнага здароўя, нязломнай веры, доўгіх і такіх жа плённых гадоў жыцця, моцнай сілы волі, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і анёлаў-ахоўнікаў!*

***Парафіяне касцёла Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне***

## Хвала Хрысту!



*Дасылаем сардэчныя віншаванні **ксяндзу Генадзю Ляўкову** з нагоды Дня нараджэння (19 лістапада)!*

*Шчыра дзякуем, паважаны ксёндз Генадзь, за Вашу працу па адраджэнні духоўнага жыцця ў нашай парафіі, за супольныя малітвы, за клопат пра людзей, за падтрымку і дапамогу! Няхай Добры Бог за ўсё добрае Вам аддзячыць! Жадаем і надалей ніколі не спыняцца на шляху дабра!*

*Моцнага Вам здароўя і фізічнай вытрымкі, мужнасці і дабрыні! Няхай Бог заўсёды атуляе Вас апекай на нялёгкім святарскім шляху! Мы молімся за Вас і жадаем плённай працы на доўгія гады. Нізкі паклон Вашым бацькам за сына-святара!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з аг. Дрысвяты***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Леанід Мозгель**! Шчыра віншуем Вас з імянінамі (10 лістапада)! Просім Пана Бога і Маці Божую адарыць Вас моцным здароўем, даўгалеццем і спакоем!*

***З удзячнасцю, вернікі касцёла Маці Божай Шкаплернай***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **айцец Андрэй Зуй**! Дасылаем Вам шчырыя словы віншавання з днём нараджэння (3 лістапада) і з імянінамі (30 лістапада)!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, дабрабыту, натхнення Святога Духа на кожны дзень пастырскай паслугі, надзейнай апекі Святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў!*

*Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Няхай спаўняюцца Вашы жаданні, а моц Божага благаслаўлення хай дапамае ў кожнай справе!*

*Дзякуем, шаноўны айцец Андрэй, за Вашу плённую працу і добрыя справы на карысць нашай парафіі. Мы памятаем Вас, запрашаем у госці і будзем вельмі рады сустрэчы з Вамі!*

***Вернікі з в. Гарадзішча (Ваўкалацкая парафія)***



## Паважаны ксёндз Анджэй!

*З нагоды імянінаў дасылаем Вам нашыя найлепшыя пажаданні! Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны. Жадаем шмат радасных і шчаслівых хвілін, сіл і стойкасці ў нялёгкай і адказнай святарскай паслузе. Хай спаўняюцца добрыя жаданні, а моц Божага благаслаўлення няхай падтрымлівае Вас у кожнай справе!*

***З малітвай, вернікі Чашніцкай парафіі***

# Бывают ли христианские депрессии?



*– Бывают ли христианские депрессии? Или это духовный кризис? Спасибо!*
*Вероника*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, вышэйшая духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўная Вераніка! Дзякуй за пытанне, якое, магчыма, задаюць у глыбіні сваёй душы шматлікія вернікі. Спадзяюся, што хоць часткова змагу дапамагчы Вам і іншым зацікаўленым чытачам разабрацца ў агучанай праблеме.

## Дэпрэсія – хвароба нашых часоў

Дэпрэсія – гэта хвароба, на якую пакутуюць мільёны людзей па ўсім свеце, незалежна ад паходжання, узросту, рэлігіі і г.д. Паколькі дэпрэсія мае розныя ступені інтэнсіўнасці і пэўныя стадыі развіцця, то неабходны дыягназ з боку спецыяліста, а часам і дапамога псіхатэрапеўта або псіхіятра. Без сумневу, людзі, якія знаходзяцца ў дэпрэсіі, павінны адказна паставіцца да свайго стану і шукаць дапамогі.

Няправільным было б меркаваць, што дэпрэсія – гэта штосьці несур'ёзнае, што само пройдзе. І цалкам несправядліва вінаваціць кагосьці за дэпрэсію або казаць, што яна вынікае з граху ці ёсць звычайнай лянотай. Дэпрэсія ніколі не з'яўляецца свабодным выбарам чалавека. Тут трэба таксама ведаць, што не кожнае праяўленне суму, дрэннага настрою, стомленасці ці прыгнечанасці ёсць сімптомам дэпрэсіі. Людзі ўнутры сябе перажываюць, часам вельмі глыбока і інтэнсіўна, жыццёвыя праблемы, выпрабаванні, няшчасці, няўдачы, знешнія або ўнутраныя канфлікты, як свае так і блізкіх. Часта з падобных сітуацый чалавек выходзіць пераможцам і яшчэ мацнейшым, але здараецца і так, што празмерныя перажыванні або праблемы вядуць да дэпрэсіі. Калі хтосьці заўважыць, што адсутнасць радасці ад жыцця, энергіі, нежаданне што-небудзь рабіць, прыгнечанасць ды стомленасць трываюць працяглы час і суправаджаюцца фізічнымі сімптомамі розных хвароб аў (напрыклад, боль у раёне грудной клеткі, расстройства страўніка і інш.), то гэта выразная прыкмета дэпрэсіі.

У яе лёгкіх станах можа дапамагчы простая змена ладу жыцця, нават звычайны шпацыр, адпаведная дыета, кантакт з сябрамі або нейкая праца. Аднак вельмі часта не абыходзіцца без дапамогі спецыяліста і фармакалагічнага лячэння. Часам людзі з дэпрэсіяй шукаюць вырашэння праблемы ў алкаголі. Трэба ведаць, што гэта вельмі небяспечны "стымулятар настрою", які, найхутчэй, пагоршыць стан і прывядзе да алкагольнай залежнасці. Само сабой разумеецца, што нельга таксама шукаць дапамогі ў наркотыках і іншых падобных рэчывах. Дэпрэсія – гэта сур'ёзная хвароба, якую дыягнаставаць і лячыць павінен спецыяліст.

## Духоўны крызіс – частка жыцця хрысціяніна

Духоўнае жыццё чалавека з'яўляецца дарам самога Бога. Яно развіваецца ў залежнасці ад стану чалавека, яго ўзросту, рэлігійных ведаў і асабістага імкнення да яднання з Богам. Паколькі духоўнае жыццё – гэта месца камуніі чалавека з Асобай Бога, то кіруецца яно правіламі, аналагічнымі да адносін паміж людзьмі, канешне, з захаваннем праўды пра дасканаласць і вернасць Бога – Любові. Вопыт многіх святых паказвае, што развіццё духоўнага жыцця вельмі часта спалучана з пераходам праз крызіс, які можа мець розны характар. Той, хто адказна ставіцца да Бога, імкнецца як мага больш маліцца, шукае новыя формы духоўнасці, стараецца таксама сур'ёзна ставіцца да рэлігійных практык, перажывання святой Імшы ды іншых сакрамантаў. Аднак, мабыць, няма такога чалавека, які б не сустрэў у сваім жыцці розныя ўнутраныя праблемы духоўнага характару. Колькі разоў звычайная рассеянасць перашкаджае добра памаліцца, часам паяўляецца сухасць, нежаданне, а нават немагчымасць трываць перад Богам, чытаць духоўную літаратуру ці ўдзельнічаць у жыцці Касцёла. Падобныя станы не сведчаць яшчэ пра духоўны крызіс, аднак, калі нічога з імі не рабіць, то могуць да яго прывезці, таму ігнараваць іх нельга.

Хто хоча духоўна ўзрастаць, павінен таксама дапускаць у сваім жыцці крызісы, дзякуючы якім можа развівацца і ўдасканальвацца камунія з Богам. Паводле меркавання тэолагаў, духоўны крызіс можа быць дарам ад Бога або вынікам нейкіх занядбанняў з боку чалавека. Варта мець на ўвазе, што да крызісу можа прывезці між іншым перакананне пра асабістую дасканаласць, якое раптоўна ламаецца, упэўненасць у сабе, стаўленне да малітвы і сакрамантаў як да пэўнага кшталту магіі, успрыманне таго, што натуральнае, як надпрыродная рэчаіснасці або нявырашаныя псіхалагічныя праблемы.

Незалежна ад сваёй прыроды, духоўны крызіс – гэта вельмі складаны стан і перыяд у жыцці чалавека, які, напрыклад, святы Ян ад Крыжа параўноўваў з цёмнай ноччу. Хоць хрысціянін ведае, што ў гэтай духоўнай цемры прысутнічае Бог, усё роўна ён вельмі пакутуе і прагне як найхутчэй выйсці на асветленыя ласкай духоўныя прасторы. Сведчанне святых і меркаванне тэолагаў паказваюць, што Бог пастаянна падтрымлівае чалавека ў такім стане.

Як дэпрэсія, так і духоўны крызіс могуць стаць часткай жыццёвай дарогі кожнага чалавека, таму варта і гэтую сферу нашай зямной рэчаіснасці аддаваць Богу ў малітве ды імкнуцца трываць у лучнасці са сваімі бліжнімі. Мы дакладна ведаем, якое значэнне маюць прафілактыка і развіццё здаровага ладу жыцця. Безумоўна, для верніка вялікім дарам ёсць духоўнае кіраўніцтва, якое дапамагае не толькі выбіраць бяспечную духоўную дарогу, але і трываць у штодзённай вернасці Богу ды ўзрастаць для святасці.

Жадаю Веранiцы і ўсім чытачам "Каталіцкага Весніка" поўнага здароўя душы і цела, калі такая Божая воля, а тым, хто перажывае дэпрэсію ці духоўны крызіс, – адпаведнай дапамогі і палёгкі дзеля лепшай будучыні! Бог – вялікі і моцны!



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*23 кастрычніка імяніны адсвяткавала **сястра Маргарыта Аўгустын**, адаратарка Крыві Хрыста. 24 кастрычніка – Дзень нараджэння **айца Андрэя Букштана OFM Cap**, 28 кастрычніка – імяніны ў **айца Тадэвуша Кавальскага OFM Cap**.*

*Ад усёй душы мы віншуем іх усіх! Сястра Маргарыта заўсёды пазнаецца па шчырай, радаснай усмешцы. Заўсёды з добрым і ўважлівым сэрцам, цеплынёй і адкрытай душой, гатовай прыйсці на дапамогу.*

*Айцец Андрэй і айцец Тадэвуш – прыклад веры, служэння, шчырай малітвы. Гэта цікавыя тлумачэнні Божага слова, разважлівасць, цяпло сэрцаў, разуменне нашых праблем, апека нашай капліцкі. Таму мы ў сваіх малітвах просім для іх у Пана Бога дароў Духа Святога, добрага здароўя, нястомнай апекі Маці Божай на ўсіх шляхах і ва ўсіх справах. Шчыра дзякуем Пану Богу за вас!*

***З павагай, вернікі з Гняздзілава***

# Сексуальная этыка: што можна, а чаго – не?

*– Слава Иисусу Христу! Подскажите, пожалуйста, что Костёлом разрешено в интимных отношениях между мужем и женой и что запрещено? И объясните, уместна ли молитва "до" и "после" соития. В Костёле очень мало об этом говорят, а хотелось бы знать точно, чтобы не согрешить.*

*Анна*



**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, вышэйшая духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Дзякуй Вам, Ганна, за пытанне, якое належыць да інтымнай сферы чалавечага жыцця і датычыць маральнага навучання Касцёла пра сексуальнасць і сужэнства. Ваша пытанне патрабуе шырэйшага разгляду, але, на жаль, немагчыма падрабязна адказаць на яго ў адным артыкуле. Тым не менш спадзяюся, што пакажу Вам дарогу для далейшых пошукаў праўды.

### Касцёл абвяшчае праўду пра сужэнства

Сужэнства – гэта сакрамант любові і сувязі, якая ажыццяўляецца, калі муж і жонка разам моляцца, працуюць, размаўляюць і клапоцяцца пра ўсе сферы свайго жыцця, не выключаючы сексуальнай. Касцёл у шматлікіх дакументах і выказваннях паказвае і ахоўвае каштоўнасць сужэнства ва ўсіх яго вымярэннях. Абвешчаны 14.10.2018 года святым Папа Павел VI навучае пра чатыры характэрныя рысы сужэнскай любові. Яна – чалавечая (і пачуццёвая і духоўная), поўная, верная і плодная (Пар. Павел VI, *Энцыкліка Нитапае vitae, 8*). Вынікае гэта з праўды, што жанчына і мужчына ў сужэнстве так цесна яднаюцца з сабою, што становяцца адным целам (пар. Род 2, 24). Неабходна тут узгадаць, што між іншым дзякуючы целу і жанчына, і мужчына выражаюць сябе як асобы. Сужэнства будуецца перадусім на ўзаемнай любові, якая мае шмат вымярэнняў і не абмяжоўваецца толькі цялеснай або пачуццёвай сферамі. Любоў у сужэнстве выражаецца і здзяйсняецца асаблівым чынам праз сужэнскі акт, які інтымна яднае сужэнцаў. Такія акты, "здзейсненыя сапраўды па-чалавечы, становяцца праявай і падтрымкай узаемнага аддання, радасным і поўным удзячнасці ўзбагачэннем сужэнцаў" *(Другі Ватыканскі Сабор, Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце Gaudium et spes, 48).*

Важным элементам каталіцкага вучэння пра сужэнства з'яўляецца прапаведаванне роўнасці, годнасці сужэнцаў, а таксама фізічнай і духоўнай вернасці ў шчасці і няшчасці (Пар. *Тамсама*). Менавіта вернасць, узаемная пашана і падтрымка на працягу ўсяго сумеснага жыцця дзякуючы ласцы сакраманту дапамагае сужэнцам неперарыўна кахаць адно аднаго, нягледзячы на розныя акалічнасці.

Паколькі сужэнства ёсць дарам Божага Провіду, то неабходна памятаць і пра яго духоўнае вымярэнне і аднясенне да Бога. Сужэнцы праз малітву, удзел у сакрамантальным жыцці Касцёла, літургіі і набажэнствах наближаюцца да Бога, а таксама да сябе. Нельга забываць і пра цноту памяркоўнасці, устрыманасці і ахвярнасці, якая часам патрабуе самаадрачэння ды прыняцця другога боку з яго кандыцыяй як фізічнай, так маральнай і духоўнай.

### Сексуальнае з'яднанне – вяршыня сужэнскай любові

Святы Ян Павел II навучае, што сужэнцы паклікаены Богам да пастаяннага ўзрастання ў камуніі праз штодзённую вернасць абяцанню ўзаемнага поўнага дару саміх сябе (Пар. Ян Павел II, *Апостальская адгартацыя Familiaris consortio, 19*). Касцёл часта кажа пра з'яднанне сужэнцаў, знакам чаго ёсць сексуальны акт. Паводле Папы Францішка, сексуальнае з'яднанне ў сужэнстве – гэта дарога ўзрастання ў жыцці ласкаю (Пар. Францішак, *Апостальская адгартацыя Amoris laetitia, 74*). Тэалогія сужэнскага жыцця прызнае, што розныя формы кахання, блізасці, праяўленні чуласці ці пяшчоты не маюць такой сілы, як сам сужэнскі акт. Трэба, аднак, памятаць, што сексуальнасць – гэта багацце, якое нельга разглядаць у катэгорыі ўзнагароды ці забавы, але як міжасабовую мову, дзе другая асоба ўспрымаецца сур'ёзна, з яе святарнаю і недатыкальнаю каштоўнасцю (Пар. *Тамсама*, 151).

Многім людзям здаецца, што каталіцкая сексуальная этыка вельмі складаная, патрабавальная, зведзеная да наказаў, абмежаванняў ды забаронаў, а такім чынам немагчымая для захавання. Падобнае ўспрыманне каталіцкай дактрыны ў вялікай ступені звязана з ігнаранцыяй наконт навучання Касцёла, хоць нельга забываць таксама пра адмоўны ўплыў сучасных ліберальных ідэалогій і тэндэнцый.

Бадай, найбольш распаўсюджанае меркаванне, што паводле каталіцкай этыкі сужэнскі акт мае служыць выключна зачаццю і нараджэнню дзяцей. Касцёл жа навучае, што сужэнцы павінны быць адкрытыя на пракрэацыю, што не азначае абмежавання сексуальнага акту толькі да нараджэння дзяцей. Каталіцкія сужэнцы дзякуючы сексуальнаму акту будуюць сувязь паміж сабою, час ад часу плануючы прыняцце дару новага жыцця. Такім чынам, мы разумеем, што секс у сужэнстве служыць развіццю любові і з'яднанню мужа і жонкі.

### Бог прысутны ў сужэнстве

Касцёл у сваім маральным навучанні пра сужэнства абапіраецца на натуральны закон, Аб'яўленні і Традыцыі. Заўсёды трэба памятаць, што адносіны паміж мужчынам і жанчынай укаранёныя ў найглыбейшай сутнасці чалавека, і іх можна зразумець толькі тады, калі прымаецца гэтая праўда (Пар. Бэнэдыкт XVI, *Прамова "Famiglia e Comunità cristiana: formazione della persona e trasmissione della fede"*). Менавіта аналізуючы натуральны закон, запісаны ў чалавечай асобе, Касцёл адкрывае праўду пра маральнасць адносін у сужэнстве, якая даволі нескладаная. Трэба памятаць, што ў сужэнстве мужчына і жанчына сустракаюцца з сабою ва ўсёй праўдзе сваёй натуры, якую неабходна прыняць і шанаваць. Маецца на ўвазе праўда пра цела, псіхіку і духоўнасць. Сужэнцы паклікаеныя прыняць гэтую праўду, згадзіцца з мудрасцю Бога адносна сябе. У гэтую сферу ўваходзіць прыняцце ўсёй гармоніі чалавечай асобы, у тым ліку цыклу жаночага арганізма, гарманальнага фону, псіхікі, рэакцый, паводзін, перажыванняў і г.д. Прыняцце праўды пра жанчыну і мужчыну вядзе да гатоўнасці "вучыцца адно ў аднаго" і яднацца ва ўсіх вымярэннях сужэнскага саюзу з захаваннем натуральнай праўды пра сябе. Іншымі словамі, падтрымка другой асобы ў сексуальнай сферы – гэта прыняцце анатоміі, фізіялогіі цела і пашана да яе.

Са сказанага вышэй вынікае, напрыклад, устрыманне ад сужэнскага акту ў перыяд плоднасці жанчыны, хоць існуе штучны спосаб "абысці прыроду" і карыстацца прэзервативам "без пагрозы" зачаць новае жыццё. З павагі да ўстаноўленага парадку жанчына не карыстаецца супрацьзачатковымі таблеткамі, каб змяніць гармонію цела.

Хтосьці можа сказаць, што гэта складана, асабліва для мужчыны, аднак мы ведаем, што сапраўдная любоў здольная на ўсё: калі муж кахае сваю жонку, то прымае яе такой, якая яна ёсць, улічваючы таксама атрыбуты яе асаблівасці ў сексуальным вымярэнні. Пазбягаць грахоў дапаможа разважанне пра цела і Божую волю, а таксама пра прысутнасць Бога ў сужэнскай еднасці.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла (даступны ў інтэрнэце на рускай мове) у нумарах 2351 – 2356 апісвае грахі супраць чыстасці, якія могуць здарыцца і ў сужэнстве: пажаднасць, мастурбацыю, разбэшчанасць, парнаграфію, прастытуцыю і згвалтаванне. Варта прачытаць таксама навучанне Катэхізіса пра сужэнскую любоў, якое распачынаецца ў нумары 2360.

Айцец Ксаверый Кнотц, аўтар публікацый пра каталіцкую сексуальную этыку, прыпамінае пра тры алтары сустрэч сужэнцаў: Эўхарыстыя, стол для сілкавання і сужэнскае ложа. Бог прысутны ва ўсіх пералічаных формах сустрэчы, таму малітва, пра якую пытае Ганна, можа быць вельмі вялікай дапамогай, канешне, у залежнасці ад духоўнай сталасці і падрыхтаванасці сужэнцаў. Існуюць сужэнскія малітоўнікі, у якіх змешчаны просьбы пра добры секс, напрыклад, выдадзены ў Лондане *"Prayer Book for Spouses"*. Прыклад малітвы перад сужэнскім актам знаходзім таксама ў Святым Пісанні ў 8 раздзеле Кнігі Тобія.

### Адказнасць касцельнай супольнасці

Ганна заўважае, што пра сужэнскую сексуальную этыку мала кажуць у касцёлах, няшмат таксама каталіцкай літаратуры на гэтую тэму, маюцца, напэўна, на ўвазе публікацыі на беларускай ці рускай мовах. Вернікі маюць права звяртацца да сваіх душпастыраў не толькі з просьбай, але і з прапановамі тэмаў ці праблем, на якіх варта або неабходна засяродзіць увагу вернікаў. У Беларусі ёсць Рада па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў, дзейнічаюць школы сямейнага жыцця, дарадчыкі сямейнага жыцця, сямейныя кансультанты, праводзяцца розныя душпастырскія акцыі з мэтаю дапамагчы сужэнцам. Аднак, магчыма, гэтыя ініцыятывы не ахопліваюць усе парафіі краіны. Тым не менш заўсёды ёсць магчымасць задаць пытанне святару, які павінен быць кампетэнтным у маральнай тэалогіі.

Разумею, што хтосьці можа саромецца задаваць пытанні пра інтымную сферу святару ў сваёй парафіі. У такім выпадку, калі "нязручнасць" значная, варта шукаць дапамогі ў суседняй парафіі. Важна заўсёды шукаць адказу на пытанні, якія хвалююць. Праяўленнем любові да бліжняга будзе дзяленне здабытымі ведамі і вопытам з іншымі людзьмі, каб дапамагчы братам і сёстрам супольнасці Касцёла больш свядома перажываць веру.

Пры нагодзе варта нагадаць пра канфесіянал, які з'яўляецца адпаведнай прасторай для вырашэння маральных праблем. Можа здарыцца так, што святар, якому мы спавядаемся або з якім размаўляем, адразу не зможа адказаць на некаторыя асабліва складаныя пытанні. У такім выпадку трэба прасіць, каб ён да наступнай споведзі ці размовы падрыхтаваў аналіз каталіцкага падыходу да праблемы.

Спадзяюся, што гэты агульны адказ для многіх вернікаў стане імпульсам для далейшых разважанняў у пытаннях малітвы ў інтэнцыі сужэнстваў у нашай краіне, каб яны былі моцнымі, трывалымі, вернымі, а перадусім з'яднанымі з Богам, Які ёсць Любоў.

Падтрымліваю ў малітве і прашу шаноўных чытачоў маліцца за мяне і семінарыю ў Пінску!

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі дружа! Калі ты правільна разгадаеш гэты рэбус, даведаешся, які літургічны перыяд трывае зараз у Касцёле. Падпішы кожны малюнак у квадрацiках знізу. Літары, якія апынуліся ў чырвоных квадрацiках, запішы па парадку ніжэй і прачытай, што атрымалася.



Адказ: ______________

Давай праверым, ці ведаеш ты, як называецца ранішняя Святая Імша ў гонар Дзевы Марыі?




Калі правільна выпішаш усе чырвоныя літары, даведаешся, як пачынаецца песня, ад якой паходзіць назва Раратняй Імшы.



Адказ запішы тут: ______________

Дзеці з ліхтарыкамі спяшаюцца на Раратнюю Імшу, але ў заснежанай Беларусі яшчэ цёмна і складана разгледзіць правільную дарогу. Дапамажы дзецям хуценька знайсці дарогу ў касцёл.



## Пазнаём Святых: Святы Мікалай

**6 снежня Касцёл успамінае Святога Мікалая**. Будучы святы нарадзіўся ў горадзе Патары ў Турцыі каля 270 года. Быў адзіным дзіцём багатых бацькоў. З дзяцінства вылучаўся не толькі пабожнасцю, але і гарачай любоўю да бедных. Пасля смерці бацькоў падзяліўся сваёй вялікай маёмасцю з патрабуючымі: падкінуў тайком ноччу грошы тром дзяўчынам, якіх бацькі хацелі выдаць за багатых, але бязбожных жаніхоў, уратаваў сваёй малітвай рыбакоў падчас буры на моры. Калі ў той зямлі, дзе служыў Святы Мікалай, была эпідэмія, ён сам служыў і дапамагаў хворым. Святы вылучаўся нязвыклай дабрынёй і гатоўнасцю заўсёды прыйсці на дапамогу патрабуючым.



Святы лічыцца апекуном усіх дзетак.

Паміж 345 і 352 гадамі святы Мікалай памёр. Яго цела было пахавана ў Мірах, дзе спачывала да 1087 года. 9 мая таго ж года цела святога было перанесена ў італьянскі горад Бары.

***Калі правільна разгадаеш крыжаванку, то ў сярэдзіне крыжаванкі зможаш прачытаць кім быў Святы Мікалай.***



1. Горад, дзе зараз знаходзіцца цела святога Мікалая
2. Святы Мікалай нарадзіўся ў (назва краіны)…
3. Месяц, у якім асаблівым чынам успамінаем Святога Мікалая.
4. Каго ўратаваў на моры Святы Мікалай?
5. Прозвішча, якое атрымаў святы за тое, што рабіў цуды.
6. Што прыносіць Святы Мікалай паслухмяным дзецям?

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# ДЗВІНСКАЯ МАЙСТЭРНЯ ПРАПАНУЕ

**Калі вы шукаеце сувеніры і падарункі з нацыянальнай тэматыкай, то вам да нас!**

Нашы майстры ствараюць арыгінальныя сувеніры з выявамі беларускіх мястэчак, помнікаў архітэктуры розных эпох і стыляў, выбітных асобаў і дзеячаў нашай краіны.

Нашы вырабы маюць сувязь з гістарычнай спадчынай беларускага народа, яго культурнымі і духоўнымі традыцыямі.

**У нас ёсць магчымасць рабіць сувеніры на замову, з улікам вашых пажаданняў і паводле вашых эскізаў!**

Пачынаючы рыхтавацца да свята Божага Нараджэння, мы таксама ўзгадваем і пра падарункі дзеткам. А на вялікае хрысціянскае свята і падарунак мусіць быць сапраўды хрысціянскім! Напрыклад, пазлы, што ілюструюць гісторыю Ноя і яго каўчэга. Каўчэг можна расфарбаваць разам з дзеткамі і распавесці ім пра Ноя, расказаць і іншыя Біблійныя гісторыі, а таксама казкі пра жывёл. А яшчэ прапануем пазлы "Касцёл" і "Стаенка"!

**Мы працуем па ўсёй Беларусі! З задавальненнем адкажам на ўсе пытанні!**

**Тэл.: +37529 590 27 84,**
**+37525 962 77 78**
**З павагай, дырэктар ААА "ВуГЛ" Ганна Копылава**
**+375 29 590 27 84 (Viber)**





**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – В; 2 – Б; 3 – Б; 4 – Б; 5 – Б; 6 – В; 7 – В; 8 – А

## Як часта вы наведваеце могілкі сваіх блізкіх?

Прапануем Вашай увазе вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках.

- некалькі разоў на год – 195 адказаў;
- кожны месяц – 37 адказаў;
- адзін раз на год – 31 адказ;
- не быў некалькі гадоў – 21 адказ;
- іншы варыянт – 20 адказаў.

**Усяго – 304 апытаных**



# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"



Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7504
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 21.11.2018 г. у 15.35
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь